Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

№ 3 (8) Сакавік 1935 г. Год II



# БЕЛАРУСКАЯ БОРЦЬ

## Месячнік пчалярства і мядова-лекарскіх зёлак

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі Вільня, Каралеўская вул. 3—8.
Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 10 да 14 гадз.

Падпісная плата: на год 5 зл., на паўгоду—2 зл. 50 гр., на 3 мес.—1 зл. 50 гр.
Заграніцу—удвая даражэй.
Цана абвестак паводле ўмовы.

## Актуальная справа.

Прышла вясна, а з ёю новае гора пчаляра, у каго пчолы перазімавалі шчасьліва, але мала маюць запасаў на веснавую пару, той рупіцца, каб іх падкарміць і памагчы ім дачакацца пажытку; а шмат напэўна ёсьць сёлета і такіх пчаляроў, якія з сумам глядзяць на пустыя вульлі, на памёршыя з голаду пчолкі. Няўжо-ж гэтак кожны год непакоіцца ў восені, бядаваць вясной? Няўжо-ж заўсёды дабівацца гэтых няшчасных 2 кіляграмаў дэнатураванага цукру, які больш шкоды, чым карысьці прыносіць? Ці няма выхаду?

На гэта можам адказаць з абсалютнай пэўнасьцю: выхад ёсьць і то зусім пэўны.

Маем тут на думцы масавае ўзбагачываньне ваколіцаў медадайнымі расьлінамі. Але за гэтую працу мусяць узяцца ня толькі паасобныя адзінкі, але ўсе пчаляры, а нават усе жыхары данай ваколіцы. Трэба помніць, што пчолы прыносяць карысьць ня толькі свайму гаспадару, даючы яму мёд і воск, але ў шмат разоў павялічываюць ураджай садоў, агародаў і розных прамысловых і гаспадарскіх расьлін.

І так: калі пчаляры і наагул жыхары данай ваколіцы пачнуць масава садзіць фруктовыя дрэвы, ягадныя кусты, сеяць матыльковыя кармовыя расьліны, заводзіць гадоўлю расьлін алейных і г. п. то ў рэзультатах: пчолы будуць мець забясьпечаны багаты медазбор, а гаспадары, дзякуючы запыленьню расьлін пчоламі, зьбяруць з палёў і садоў вялікія ўраджаі. Ужо цяпер пры надыходзячай вясьне кожны думае, што і дзе будзе садзіць і сеяць, няхай-жа ў гэтых плянах, асабліва ў пчаляроў, на першым

мейсцы будзе думка аб пчолах!

Сеючы расьліны кармовыя—сейма канюшыны белую і швэдзкую, сэрадэлю, люцэрну, прабуем сеяць эспарцэту і прабуйма заводзіць баркуны, белы і жоўты. Растуць яны і там, дзе не расьце канюшына, а на сколькі яны цэнныя, як паша, найлепш гаворыць іх вялікае распаўсюджаньне ў Амэрыцы. Там, у адным штаце Ілінойс, як падае бюлетэнь дасьледчай станцыі Ілінойскага Унівэрсытэту, было засеяна: у 1919 г. 50.000 акраў, 1925 — 350.000 акр., 1930 — 790.000 акр., 1932—850.000 акраў. Гэтыя цыфры найлепш сьведчаць, як амэрыканскія земляробы цэняць і распаўсюджываюць баркуны. Ня менш пэняць іх і пчаляры, якія падчас красаваньня вывозяць на баркуны свае пчальнікі.

Непашкодзіла-б і нам папрабаваць сеяць баркуны, тым больш, што яны, як і другія матыльковыя, збагачываюць зямлю азотам, робяць яе больш пульхнай і ўраджайнай.

Аб садох можам сказаць адно, што ні для сябе, ні для пчол, ніколі і нідзе ня будзе іх зашмат, значыцца трэба іх засаджываць пры кожнай хаце, дзе толькі ёсьць адпаведны на гэта грунт. У садочку павінна знайсьціся мейсца і на некалькі кустоў аграсту ды парэчал, гэтых найпершых веснавых медадаяў.

У пчалярскай гаспадарцы не павінна быць ні сьледу т. зв „няўжыткаў". Кожны найменшы кусочак зямлі, пад хатамі, платамі, пад гаспадарскімі будынкамі павінны быць засеяны медадаямі: гэтак сама трэба засяваць імі межы, берагі лясоў, насыпы чугупак і г. д. Пчолы ўсюды іх знойдуць, усюды выкарыстаюць. Усе медадаі вельмі лёгка рассяваюцца, так што і кошт і працу можна лічыць аднаразовымі, а медазбор пры спрыяючых атмасфэрычных абставінах забясьпечыцца на доўгія гады. Бязсумліўна, яшчэ большае значэньне дзеля ўзбагачываньня мяйсцовасьці медадаямі мела-б шырокая акцыя засаджываньня ўсюды, дзе магчыма, медадайных кустоў і дрэваў. Ёсьць шмат такіх дрэваў, якія растуць, а значыцца і мядуюць вельмі хутка. Напр. белая акацыя, якую можна садзіць на насыпах і наагул тых мяйсцох, якія трэба замацаваць. Жоўтую акацыю, аморфію і іншыя кусты (гл. № 5 „Бел. Борці" і 1—2 (6-7), трэба выкарыстоўваць на жываплоты, якія павінны ў нас замяніць платы з дошак, а таксама знайсьці сабе мейсца ўздоўж лініяў чугункі. Быў час, калі наш край багаты дзікімі медадаямі даваў шмат мёду і воску, але сягоньня бяз нашай помачы пчолы ня змогуць нават сябе забясьпечыць адпаведнымі запасамі, асабліва ў такіх ваколіцах, дзе пчальнікоў ёсьць шмат і пчаляры што раз больш іх пашыраюць.

У такіх мяйсцовасьцях ўсе пчаляры, як адзін, павінны супольна заняцца справай павялічэньня ліку медадаяў, тады толькі іх пчалярскія гаспадаркі дадуць сапраўды прыход і будуць забясьпечаны ад восеньніх і веснавых клопатаў.





## Чым карміць пчол на сілу?

Досьледы розных вучоных даказалі, што пчолы гадуючы чарву мусяць мець абавязкава пяргу (пылок), або такую ежу, у склад якой уваходзілі-б: бялок, тлустасьць (тук) і мінэралы. Пчолы падкормліваныя цукрам могуць таксама гадаваць чарву, але толькі праз вельмі кароткі час, дзеля таго, што якраз тых патрэбных складнікаў цукар у сабе ня мае і пчолы мусяць даставаць іх са свайго ўласнага арганізму, што іх вельмі асла бляе і робіць падатнымі на розныя хваробы

Тымчасам ня раз прыходзіцца падкормліваць пчол на сілу (спэкуляцыйна) рана вясной, калі пяргі ў прыродзе яшчэ няма, або ў благую пагоду, калі пчолы зусім ня лётаюць, або лётаюць вельмі мала. Тут паўстае пытаньне: чым можна замяніць пяргу? Што па свайму складу найбольш да яе падыходзіць? Хочучы адказаць на гэтае пытаньне, пчаляры праводзілі шмат досьледаў стараючыся знайсьці найбольш адпаведны сурагат. Дзеля досьледаў карміліі пчол мяшанкай мёду: з парашком выпараванага худога малака, з сухімі драждjамі, са сьвежым малаком, з цэлым яйком, толькі з бялком і жаўтком, а таксама з жытняй мукой. Аказалася, што найбольш вартаснымі зьяўляюцца сухія дрожджы і сьвежае малако, якое мае палову вартасьці пяргі. Парашок худога малака роўны 1/3 вартасьці пяргі, яйко і жаўток 1/5 пяргі, а бялок 1/7. Жытняя мука ня мае ніякай вартасьці як сурагат *).

З усіх вышэй пералічаных сурагатаў найбольш карысным, а прытым найбольш даступным і самым танным зьяўляецца сьвежае поўнае малако з мёдам, або цукрам.

Даказана, што пчолы падкормліваныя малаком разьвіваюцца нармальна і хутка будуюць вашчы-

*) Дадзеныя ўзяты з „Украінскага Пасічника“.

## Кароткі нарыс з гісторыі пчалярства.

Ад найстарэйшых часоў, разам з весткамі аб чалавеку, даходзяць да нас успаміны аб пчале і прадуктах яе вырабу: мёдзе і воску. У старой Індыі пчалярства было гэтак пашырыным, што Індусы ўжывалі мёд, як звычайную страву; і бедныя і багатыя ўмелі выраблядь мядовыя напіткі і пячы пернікі, якія здабылі сабе сусьветную славу, пад назовам: „індыйскіх прысмакаў“. Грэкі пераняліі пчалярства ад Індусаў і так яго пашырылі, што маленькая афінская дзяржава налічывала ў сябе аж 20.000 пчаліных сем'яў. Мёд ужывалі ў натуральным выглядзе, а яшчэ больш у перарobленым. Мядовыя віны, пернікі, кансэрваваныя ў мёдзе фрукты былі ўсім знаныя. Ужо за 800 гадоў перад Хрыстом, Грэкі мелі пісаныя кніжкі аб пчолах і пчалярстве ды ўжывалі круглыя вульлі.

Даўныя Рымляне за 100 гадоў перам Хрыстом мелі значную пчалярскую літэратуру з падрабязным апісаньнем жыцьця пчол. Рымскія ўлады бралі падаткі з заваяваных краёў—мёдам і воскам. Напр. востраў Корсыка мусіў плаціць 200.000 фунтаў мёду і воску. Браты Веяны каля самага Рыму мелі такі вялікі пчальнік, што засявалі спэцыяльна для пчол свае аграмадныя палі медадайнымі расьлінамі. За права пчаляраваньня плацілі дзяржаве даніну ў разьмеры 10.000 сэстэрцый. Можна выабразіць, які даход мелі яны са свайго пчальніка.

Калі жыды пасьля выхаду з Эгіпту ішлі праз пустыню, каб

ну, а матка кладзе яечкі больш інтэнсыўна. Каб прызвычаіць пчолы браць новы для іх корм, трэба спачатку рабіць яго больш салодкім. І так першыя 3—4 дні прыгатаўляць сумесь з 1-ае часьці малака на 2 часьці цукру, (напр. 1 шклянку на 2 шклянкі), у наступныя 3—4 дні — 1 часьць малака і 1 часьць цукру, далей — 2 часьці малака на 1 часьць цукру. Гэтак можна дайсьці да таго, што хопіць засаладзіць шклянку малака 3 мя лыжачкамі цукру. Пчолы хутка прывыкаюць да малака і бяруць яго ахвотна. Ня можна толькі прыгатаўляць малочнай ежы ў запас, а кожны дзень рабіць сьвежую. Цукар і малако ў колькасьці патрэбнай дзеля аднаразовага падкормліваньня (ня больш як 1/2, або 1 шклянку сумесі на адну сям'ю) награваем у чыстай пасудзіне датуль, пакуль цукар не распусьціцца не пашкодзіць, калі сумесь раз перакіпіць.

Кармушкі, у якіх даецца малочная ежа трэба ўтрымліваць чыста, мыючы кожны дзень цёплай вадой, каб астаткі ежы не закісьлі, бо гэта магло-б пашкодзіць пчолам. Падкормліваючы пчолы на сілу, ці як яшчэ кажуць на чарву, апіраемся на той праўдзе, што толькі сем'і сільныя змогуць у поўнай меры выкарыстаць пажытак у прыродзе. У тую пару мусіць сям'я мець як найбольшы лік маладой лётнай пчалы і як найменш яечак і адкрытай чарвы, якіх пчолы мусілі-б агравацца і карміць. І вось, абмяркаваўшы добра, калі будзе той добры пажытак, да якога хочам прыгатавацца, за 5—6 тыдняў наперад пачынаем пчолы падкормліваць. Перастаем карміць на 10—15 дні перад пажыткам.

Падчас падкормліваньняня пчол на сілу, гняздо мусіць быць утрымана цёпла, а матка павінна мець даволі мейсца на складаньне яечак, дзеля чаго гняздо трэба паступова пабольшываць.

На пчальніку павінны пчолы мець вадапойку, а ў благую пагоду трэба ім даваць цеплаватую ваду ў вулей, бо падчас гадаваньня чарвы вада пчолам неабходная.

**З. В.**

---

дайсьці да зямлі абяцанай, выслалі туды разьведчыкаў, каб абгледзілі край. Тыя прынясьлі весткі, што зямля абяцаная „плыве малаком і мёдам". І праўда, было гэтак у тыя часы. Калі сьв. Ян Хрысьціцель жыў, як пустыльнік пры рацэ Ёрдане, ён еў саранчу, карэнчыкі і мёд лясных пчолаў. Мёд выцякаў там з дупляў і з шчылінаў скал.

Ня будзем тут гаварыць аб пачатках пчалярства ў Нямеччыне, Францыі, Англіі і г. д., зьвернем толькі ўвагу на пчалярства ў краёх для нас найбліжэйшых. У пачатках гісторыі кожнага славянскага народу, нават у яго гістарычных легендах спатыкаюцца ўспаміны аб пчолах, асабліва аб воску і мёдзе, якія зьяўляліся прадметамі гандлю.

З пэртрактацыяў княгіні Ольгі з племям Драўлянаў у 946 годзе бачым, што кіяўскія князі зьбіралі з жыхароў падаткі: скурамі, мёдам і воскам. Гэтак было і ў іншых народаў. Зразумела, што жыхары мусілі старацца, каб гэтых прадуктаў мець як найбольш і дзеля гэтага бязупынна пашыралі свае пчаліныя гаспадаркі. У выніку атрымлівалі столькі мёду і воску, што сталіся яны галоўнымі гандлёвымі прадуктамі ня толькі ў межах краю, але і на вываз. У гандлі Галіччыны і Валыні з Прусамі ў другой палове XIV стагодзьдзя воск побач з футрамі ішоў на экспарт у сярэднюю і заходнюю Эўропу. Аб разьмерах гэтага гандлю гаворыць нам статыстыка кракаўскай мытнай каморы.

*Садзі медадайны жываплот — будзеш есьці мёд.*

М. ЯКІМЕЦ.

# Хваробы і ворагі пчолаў.

(Працяг).

**II. Хваробы заразныя.**

Заразныя хваробы чарвы можам падзяліць залежна ад таго, якія арганізмы іх выклікаюць: на хваробы выклікаными праз бактэрыі і — праз грыбкі. Хваробы групы першай зьяўляюцца найстрашнейшымі і найчасьцей спатыканымі, тады, калі групы другой спатыкаюцца вельмі рэдка і ня маюць большага значэньня ў пчалярскай практыцы.

**I. Хваробы выкліканыя бактэрыямі.**

Бактэрыямі прынята называць аднаклетныя стварэньні, якія маюць у сабе толькі пратаплязму і павалочку. Бачыць іх можам толькі пад мікраскопам, а ёсьць нават такія, якіх ня ўбачым пад найбольш павялічваючы мікраскоп. Маюць яны розныя формы: ёсьць бактэрыі падобныя да кіёчка і называюцца бацылямі (Bacillaceae); падобныя да клубочкаў—называем коккамі (Coccaceae); ёсьць таксама бактэрыі, цела каторых бывае даўгое і закручанае ў сьпіраль — гэта сьпірыльлі (Spirillaceae). Хваробы пчалінай чарвы выклікаюць бактэрыі толькі дзьвёх першых групаў. Некаторыя бактэрыі маюць на сабе вусікі, дзякуючы якім могуць яны рухацца, бактэрыі клубікаватыя (коккі) маюць павалочку гладкую і самі рухацца ня могуць. Усе бактэрыі могуць вельмі хутка множыцца і ў спрыяючых варунках у адну гадзіну бактэрыя можа падзяліцца на дзьве маладыя бактэрыі; праз дзьве гадзіны на чатыры, праз тры — восем і г. д. Праз 24 гадзіны з аднае бактэрыі атрымаецца гэтакім чынам некалькі міліёнаў.

Калі-ж бактэрыі знаходзяцца ў холадзе, або нямаюць даволі ежы,

---

| У годзе | Вывезена каменьняў воску. (Камень прыблізна 25 кіл. або $1^1/_2$ пуда). | Бочак мёду. |
|---|---|---|
| 1510 | 15.716 | 707 |
| 1523 | — | 168 |
| 1533 | 9.840 | 650 |
| 1535 | 6.527 | 321,5 |
| 1536 | 10.869 | — |
| 1541 | 8.996 | — |

Аграмадны лік пчаляроў і вялікае значэньне пчалярства ў тагачаснай гаспадарцы, вымагалі ўпарадкаваньня гэтай галіны з боку праўнага. Ясна, што пэўныя правы — звычаі існавалі ў народзе ад самага пачатку разьвіцьця пчалярства, але пісанае права зьявілася шмат пазьней. У „Рускай Праўдзе", украінскай юрыдычнай памятцы (X — XII ст.). З часоў Яраслава Мудрага (XI ст.) ёсьць такія законы: 1) Хто зсячэ „борць", плаціць кары 3 грыўні (18—24 руб.), такая самая кара накладаецца на злачынца, які адсячэ некаму палец, або інакшыя задасьць раны. 2) За падпал чужога дабра, у тым ліку і борцяў, накладалася кара сьмерці, або выганялі вінавайцу за межы бацькаўшчыны. 3) За кражу дабра, жывёлы, за зьнішчэньне знакаў на борцях—штраф—12 грывен (72—96 руб.). 4) За кражу збожжа з адрыны, сокала, мёду і жывых пчол—3 грыўні.

У Польшчы першае пісанае права аб пчолах паўстала ў 1347 годзе. Але аж да 1512 году ў польскіх статутах няма нічога аб кары сьмерці за зьніщчэньне пчолаў, права гэтае было перанесена падобна ад немцаў. Побач з дзяржаўнымі правамі аб пчолах, пчаляры згуртаваныя ў асобныя цэхі ці

дык плоднасьць іх зьмяншаецца ўзаемнай барацьбой і спыняецца зусім, калі няма больш ежы і тады некаторыя бактэрыі гінуць, але большасьць з іх замяняецца на споры (зародники) Споры вельмі невымагаючыя. Яны могуць трываць некалькі дзесяткаў гадоў бяз ежы. Маразы, нават вельмі вялікія, спорам зусім ня шкодзяць. Споры вытрымоўваюць значна вышэйшую тэмпэратуру за бактэрыяў, з якіх яны вытварыліся. Як толькі спора пападзе ў спрыяючыя для яе варункі—зараз-жа будзіцца да жыцьця і пераходзіць у бактэрыю, якая пачынае хутка размнажацца праз падзел. Гэтакія бактэрыі называюцца спараноснымі. Ня кожны арганізм могуць бактэрыі заразіць. Аб гэтакіх арганізмах кажам, што яны маюць адпорнасьць (імунітэт). Імунітэт можа быць набыты і спадковы (набыты ад бацькоў—прыродны). Змаганьне з хваробамі павінна палягаць на лячэньні хворых сем'яў (раёў) і на размнажэньні рас і раёў, якія маюць набыты ад бацькоў (прыродны) імунітэт.

Ад часу заражэньня да часу паяўленьня аб'яваў хваробы праходзіць некалькі дзён — час гэты мы называем інкубацыйным часам.

**Гнілец.**

Заразныя хваробы чарвы існуюць ад непамятных часоў. Успамінаюць аб іх Арыстотэль, Віргілі і Колюмэльля. Але дакладна пазналі іх і апісалі вучоныя толькі ў XIX і XX стогодзьдзі.

У 1895 годзе Cheshire і Cheyne выкрылі бактэрыю, якую яны назвалі Bacillus advei. Гэтая бактэрыя даўгі час уважалася за прычыну гнільца. У 1906 годзе Bourri выказаў, што існуюць два гатункі бактэрыяў, якія выклікаюць гнілец і таму падзяліў на гнілец сьмярдзючы і несьмярдзючы. Дакладна апісаў гнілец White. Бактэрыі, якія прычыняюцца да гніцьця чарвы незапячатанай назваў ён Bacillus pluton, а самую хваробу эўрапэйскім гнільцом. А бактэрыі, якія прычыняюцца да гніцьця запячатанай чарвы—Bacillus larvae, а хваробу—амэрыканскім гнільцом. На-

---

брацтвы, мелі свае ўласныя статуты, выбіралі сабе старасту, а таксама судзьдзяў, якія разьбіралі непаразуменьні паміж пчалярамі ў справах пчалярства. Мелі нават свае ўласныя сьцягі. Падобна старадаўны сьцяг Віленскага пчалярскага цэху пераховўваецца ў касьцеле сьв. Пятра і Паўла на Антокалі.

Гэтакім менш больш, у грубых рысках быў гандлёвы стан пчалярства і яго праўны бок у старыя часы.

Цяпер паглядзім, якімі дарогамі ішлі гадоўля пчол, і поступ у пчалярстве.

Не заўсёды пчолы былі гэтак, як цяпер гадаваныя пчалярамі. Даўней жылі пчолы дзіка ў лясох у дуплях дрэваў, а таксама ў розных шчэлках і трэшчынах скалаў. Чалавек, які качаваў з мейсца на мейсца гэтак толькі займаўся пчоламі, што знайшоўшы іх у лесе нішчыў бяз літасьці, забіраючы сабе мёд.

Асеўшы на мяйсцох людзі зьвярнулі большую ўвагу на пчолы і бачучы, якую вялікую карысьць яны прыносяць, пачалі знайдзенымі апякавацца. Забіралі ім толькі часьць мёду, астаўляючы столькі, каб ім хапіла на зіму. Далей, прыглядаючыся да пчол, людзі заўважылі, што яны дзеляцца на новыя групы, якія шукаюць сабе памешканьня ў новым мейсцы. Гэта падало людзям думку, каб сумысьля прыгатаўляць адпаведныя мейсцы, дзе новыя грамады маглі-бы жыць ды даваць мёд і воск. Дзеля гэтага пачалі дзяўбсьці ў жывых дрэвах, высака над зямлёй углыбленьні зачыненыя звонку дапасаванымі дошкамі, каб лягчэй пасьля было выбіраць мёд. Гэтакія памешканьні для пчол у жывых дрэвах назы-

зовы гэтыя ня вельмі адпаведныя таму, што гэтыя хваробы спатыкаюцца, як у Амэрыцы, так і ў Эўропе і таму доктар Гумэнюк прапануе надаць назоў для гнільца эўрапэйскага — плютановага, а для амэрыканскага—лярвовага.

**Гнілец амэрыканскі (лярвовы).**

Гнілец амэрыканскі—найгоршая і найстрашнейшая хвароба пчалінай чарвы. Спатыкаецца вельмі часта, ува ўсіх частках сьвету, ува ўсякіх варунках кліматычных і ўва ўсіх расах пчол. Цяпер можам яе спаткаць таксама ў пчолаў дзікіх, хаця вельмі пашыралася яна ад часоў застасаваньня рухомай будовы вузы. Хваробу гэту выклікае Bacillus larvae з групы бацыляў. Мае ён 2,5 — 5 м. даўжыні і 0,7 — 0,8 м. таўшчыны (м. г. зн. мікрон 1/1000 мілімэтра). У варунках няспрыяючых заменяецца ён у споры, якія маюць 1,3 — 1,6 м. даўжыні і 0,6—0,7 м. таўшчыні.

Інкубацыйны час хваробы трывае ад 6—8 дзён і таму чарва памірае на 3 — 4 дзень пасьля запячатаваньня. Заражэньне наступае, разумеецца, яшчэ тады, калі чарву кормяць пчолы. Павольнае разьвіцьцё хваробы ў чарвы незапячатанае тлумачаць вучоныя тым, што Bacillus larvae ня можа хутка размнажацца ў прысутнасьці большай колькасьці цукру, але з хвілінаю запячатаньня чарва ў сваім страваўчым праходзе цукру ня мае і тады бактэрыі пачынаюць вельмі хутка размнажацца і апаноўваюць усяго чарвячка ды прычыняюцца да яго сьмерці. Бактэрыі гэтыя нападаюць, пераважна на чарву пчаліную тады, калі чарва трутнёвая і на маткі застаецца пераважна здаровая. Хворая чарва замест нармальнага бела-блакітнага з характэрным парцэляновым адценкам колеру, мае спачатку жаўтаваты, а ў канцы коляр буры. Цела чарвячкоў распадаецца на цягучую і сьмярдзючую жыжку, якая прыстае да дна чарачкі. Дзеецца гэта таму, што пры гэтай хваробе гніе таксама скурачка чарвячка, чаго ніколі ня бывае пры іншых хваробах чарвы. Пчолы пры гэтай хва-

---

валі „борцямі“. Каб прынадзіць пчол, борць націралі ў сярэдзіне пахнючымі зёлкамі або старой вашчынай. Часта зьбіралі самі асеўшыя на галінах раі і асаджывалі ў борцях. Борці рабілі высака дзеля таго, каб забясьпечыць іх ад такіх зладзеяў, як мядзьведзь і чалавек. Трэба было вялікай зручнасьці, каб далезьці да борці напр. па гладкой сасьне. Яшчэ і цяпер можна спаткаць гэтакія борці ў Белавежскай Пушчы.

Стараючыся прыдбаць больш поля дзеля пасеву збожжа, людзі паступова церабілі лясы, а тады гадаваць пчол у борцях было ўжо ня выгадна, тымбольш, што трудна было іх сьцерагчы параскіданыя па лесе. Тады пачалі пераносіць пчол бліжэй людзкіх памешканьняў. Ад ссечанага дрэва адпілоўвалі борць разам з пчоламі, насколькі яны ўтрымаліся пры ссяканьні дрэва, у адваротным выпадку перавозілі прынамсі пустую борць і асаджывалі ў ёй новы рой. Борць пастаўленую стоць называлі калодай-стаякóм, а паложаную — калодай-лежаком. Гэтакіх калод у цэлым нашым краі ёсьць яшчэ шмат: так наирыклад у аднаго старога пчаляра ў Горадзеншчыне, Сакольскім павеце, вёсцы Куляўцах цэлы пчальнік, каля 30 сем'яў, складаецца з адных калодаў, як стаякоў, так і лежакоў.

У ваколіцах бяз лесных пчаляры стараліся дарагія калоды дрэва замяніць іншымі матар'ямі: рабілі вульлі з клепак, як бочкі, з саломы, з гліны, плялі з галінак і пасьля абмазывалі глінай і г. п.

Украінскія пчаляры вельмі рана, бо ўжо 1.000 гадоў таму рабілі вульлі — дуплянкі (бяздонкі), аб чым успамінае Арабскі пісьменьнік Іян-Рустэ ў „Кнізе добрых скар-

робе ніколі чарачак ня чысьцяць, а гэта таму, што жыжка моцна прыліпае да дна чарачкі, а таксама таму, што пчолам няма за што выцягнуць, бо скурачка, як я ўжо ўспамінаў, распадаецца.

Прыметай гэтай хваробы ёсьць тое, што нават і пры найлепшай матцы чарва будзе ня шчыльная, а ў раскідку па аднэй чарачцы ці астраўкамі. На адным баку вузы бываюць яечкі і чарвячкі ўсякай вялічыні. Памёршая чарва ляжыць заўсёды у сярэдзіне гнязда. З вульля пахне дрэнным сталярскім клеям (каруком). Вечкі на чарачках бываюць упаўшыя ў сярэдзіну і часамі з дзірачкай, як быццам хто яе пракалоў. Бывае так, што вечкі на чарачках з памёршымі і згінуўшымі чарвячкамі не ўваліваюцца і бяз дзірачак, але бываюць шмат цямнейшымі за здаровыя. Ані пара году, ані пажытак ня мае ўплыву на развіцьцё хваробы. Калі яе ня будзем лячыць, яна заўсёны давядзе нават найсільнейшы рой да сьмерці. Самавылячэньне сям'і ніколі не заўважана.

Калі памёршы чарвячок ляжыць вельмі доўга, дык па распячатаваньні чарачкі заўважым на дне яе маленькі струпок, які вельмі моцна прылягае да дна ці сьцяны чарачкі. Калі мы гэтакі струпок намочым у вадзе ён заменіцца ў цягучую жыжку. Жыжка гэта, як і жыжка толькі што памёршага чарвячка, пры даткненьні да яе маленькім кіёчкам напр. (сярнічкай) дае на некалькі цэнтымэтраў даўгую нітку, чаго пры іншых хваробах чарвы ніколі ня бывае.

Рой заражаны амэрыканскім гнільцом хутка слабее ня з прычыны сьмерці пчолаў дарослых, але з прычыны таго, што ня прыбываюць маладыя пчолы. З недахопу пчолаў можа здарыцца замірaньне здаровае чарвы з прастуды ці недахоку ежы.

Хаця дарослыя пчолы зьяўляюцца галоўнымі пераношчыкамі спораў Bacillus larvae з чарачкі ў чарачку, з чарвячка на чарвячок, з вульля ў вульлей і з пчальніка ў пчальнік, аднак самі яны гэтымі бактэрыямі не заражаюцца.

---

баў", кажучы, што: „Украінцы з дрэва робяць пасудзіны ў форме цэбраў і ў іх гадуюць пчолы".

У аднэй з нямецкіх пчалярскіх часопісаў у 1931 годзе была зьмешчана праца нямецкага прафэсара З. Амбрустэра, адносна найстарэйшага пчалярства ў сьвятле досьледаў гіетарычных і гаспадарскіх. Першую частку гэтай працы аўтар пасьвяціў старадаўнаму пчалярству ў дольняй Саксоніі, якое дасьледжываў падчас сваеў падарожы.

У адлежных вёсках лёгка можна было знайсьці пчалярскія гаспадаркі, якія вяліся старадаўнымі, прымітыўнымі спосабамі. Пчолы там трымаюць амаль ня выключна ў саламяных дуплянках, характэрнай формы, якія стаяць у спэцыяльных салідных будынках, часта вельмі старых.

У другой частцы сваей працы аўтар разглядае пачаткі гадоўлі пчол у Славянаў, апіраючыся спэцыяльна на сваіх апошніх досьледах у ваколіцы Пішчыны, у Карпатах і ў Чэхаславаччыне. Пэўным сьледам даўнейшага ляснога пчалярства лічыць Амбрустэр тыповую калоду, у той час, калі ўжываньне дуплянак (бяздонкаў) ня можа быць доказам існаваньня ляснoй гадоўлі ў данай ваколіцы. Разглядаючы пачаткі гадоўлі пчол, Амбрустэр праводзіць выразную мяжу паміж Чэхамі і Славакамі: сярод першых знаходзіў ён праўдзівыя калоды, як астаткі старога пчалярства, сярод другіх толькі дуплянкі. Старое пчалярства ў Славакаў мае шмат рысак супольных з пчалярствам Альпійскім, нагул адрозьніваецца ад славянскага пчалярства.

(Далей будзе).

Каб больш вобразна прадстаўляўся амэрыманскі гнілец, падам яшчэ раз коратка галоўныя яго прыметы:

1. Раскіданасьць чарвы.
2. Вечкі пад пячатанай чарвой угнутыя ў сярэдзіну.
3. Некаторыя з іх дзюравыя, як-бы праколатыя шпількаю.
4. У чарачцы замест жывога чарвяка цягучая і сьмярдзючая жыжка.
5. Чарачкі з памёршымі чарвячкамі бываюць больш цёмнымі за нармальныя.
6. Ад вульля пахне дрэнным сталярскім клеям.
7. Пчолы ніколі чарвячкоў ня выкідаюць.
8. Пчолы працуюць вельмі вяла і слаба.
9. Часта робяць матачнікі.
10. Чарвячок, які пасьля сьмерці даўгі час ляжаў, замяняецца ў струпок, які намочаны ў вадзе, дае цягучую жыжку.

(Працяг будзе).

---

# Мёд як лякарства.

## Справаздача з пробы спажыўнай вартасьці мёду, якую зрабіў Аўстрыяцкі Саюз Пчаляроў.

Маючы загад зрабіць пробу спажыўнасьці мёду на дзецях-школьніках места Вены, піша аўтар стацьці, атрымаў я ад дырэкцыі Дому Сірот хлапцоў дазвол на выкананьне патрэбных досьледаў. У паразуменьні з лекарам Дому Сірот Д-р К. Peyrer-Heimstäe, спэцыялістам дзіцячых хвароб распачалі мы працу з лістапада. З хлапцоў жыўшых у інтэрнаце выбралі мы 58, што двух праблізна аднолькавага росту і так: з III клясы пачаткавае школы (хлапцы па 8 гадоў) 8 пар, з I клясы школы галоўнае 16 пар (хлапцы па 9 гадоў) і з III клясы школы галоўнае 5 пар (хлапцы па 12 гадоў). Усіх гэтых хлапцоў дакладна памэрана, зважана і зьмерана колькасьць гэмаглёбіну мэтадаю Sahli.

Работу гэту мы выканалі ад 3 — 9 лістапада ў папалудзенных гадзінах. А пачаўшы ад 9 лістапада атрымоўваў з кожнай пары адзін і той самы хлапец у дзень па сталовай лыжцы мёду перад і пасьля палудня, другая палова хлапцоў падлягала досьледам дзеля кантролі. Аўстрыяцкі Саюз Пчаляроў ахвяраваў на гэтую мэту 100 кіл. мёду, каб досьлед правясьці ў працягу 6 тыдняў. Апрача таго, прасілі дырэкцыю Дому Сірот, каб вышэй успомненыя порцыі мёду хлапцы атрымоўвалі дакладна такія, якія былі прыпісаны і ў гэтым напрамку я рабіў ад часу да часу кантролі. Вынік быў наступны:

Кроў хлапцоў, каторыя атрымлівалі мёд мела шмат больш гэмаглёбіну. У большасьці хлапцоў (2/3 прыбыло гэмаглёбіну 8 1/2 проц., тады, калі ў большасьці хлапцоў (2/3) не атрымліваючых мёду колькасьць гэмаглёбіну выразна апала — адпаведна да ўзрастаючай патрэбы адпачынку сярод школьнага году.

Вага хлапцоў, як гэтага можна было спадзявацца ў дзяцей, у часе фізычнага разьвіцьця, выказала агульны прырост, які ў хлапцоў, не атрымліваючых мёду быў ніжэй 1 кіл., у хлапцоў-жа, каторыя атрымлівалі мёд да 2 кіл., а ў некаторых нават больш.

Z „Bartnika Wielkopolskiego“,
падаў: **Як. М.**



# Аддзел лекарскіх зёлак.

## Да зьбірачоў і плянтатараў.

Надыходзіць вясна—пачатак зёлкавага сэзону.

Прыступаючы да збору зёлак з дзікага стану, або да іх гадоўлі, трэба раней усяго падумаць над тым, што і як трэба зьбіраць ці гадаваць, каб быць пэўным, што сабраны ці выпрадукаваны тавар знойдзе купца. Хоць мы ўжо ня раз пісалі, што зёлкі гэта нашае багацьце, якому ня трэба даваць марнавацца, але мусім зазначыць, што гэтае багацьце толькі тады будзе запраўдным багацьцем і не змарнуецца, калі сабранае, яно будзе прададзена і дасьць адпаведныя карысьці зьбірачу, або плянтатару. У іншым выпадку будзе змарнаванае ня толькі зёлка, але і праца зьбірача ці плянтатара, а ў выніку—расчараваньне і зьнеахвочаньне да далейшае працы.

Каб не здарылася гэта, кожны, хто хоча заняцца зборам ці гадоўляй зёлак, павінен перш-на-перш добра азнаёміцца з запатрабаваньнем рынку і зьбіраць ці гадаваць толькі тое, што можна прадаць.

Другім варункам аплатнасьці працы будзе адпаведнае прыгатаваньне тавару.

Трэба помніць, што зёлка гэта тавар, збыт якога асабліва залежны ад яго якасьці і можа быць добра прададзены толькі тады, калі будзе прыгатаваны паводле вымогаў аптэчнага рынку. Зёлка-ж сабранае ня ў часе, або ў не адпаведны спосаб, ня так высушанае і ня добра перахаванае траціць сваю лекарскую вартасьць і дае тавар горшага гатунку.

Кожны зьбірач і плянтатар павінен кіравацца прынцыпам, што не павінна быць тавару „другога“ ці нават „трэцьцяга“ гатунку. Ёсьць толькі гатунак „першы“, які толькі і надаецца да лекарскіх мэтаў, а ўсё іншае разглядаецца толькі як сырэц для перароблі, або для іншых тэхнічных мэтаў, і калі гэтакі тавар і ўдаецца прадаць, то па цане значна ніжэйшай, а вельмі часта здараецца, што тавар такі, калі ён асабліва занячышчаны і зусім бракуецца.

Каб мець тавар заўсёды добры і быць спакойным за збыт яго, трэба бязумоўна і дакладна выконываць усе парады адносна збору і гадоўлі.

Дакладныя апісаньні спатыканых у нас расьлін, спосабы іх збору, сушэньня і перахоўваньня можна знайсьці ў завочных курсах Т-ва „Пчала“, з якімі радзім азнаёміцца кожнаму, хто толькі хоча заняцца зёлкамі. Мы-ж з свайго боку апрача таго гатовы служыць кожнаму нашаму чытачу фаховымі парадамі, як на бачынах „Бел. Борці“, так і асобнымі пісьмамі, калі будзе прыслана паштовая марка на адказ.

Пачынаючы з гэтага нумару мы будзем інфармаваць нашых чытачоў як аб запатрэбаваньнях рынку на паасобныя зёлкі, так і падаваць арыентацыйныя цэны, і ўсе іншыя дадзеныя, якія могуць цікавіць плянтатараў і зьбірачоў зёлак.

Пад канец зварочываем увагу, што Т-ва „Пчала“ стараецца арганізаваць беспасярэдні збыт зёлак ў экспартовыя фірмы, каб дапамагчы нашым зьбірачам абмінуць розных пасярэднікаў і прадаць свой тавар з найбольшай карысьцю. Навязаць зносіны ў гэтай справе з Т-ва „Пчала“ будзе карысна кожнаму зьбірачу і плянтатару.

---

# Якія лекарска-прамысловыя расьліны варта гадаваць.

Кожны плянтатар прыступаючы да гадоўлі лекарскіх і прамысловых расьлін павінен раней усяго дакладна выясьніць, якія расьліны могуць надавацца да гадоўлі на яго зямлі.

Каб дапамагчы нашым чытачом вырашыць гэтае пытаньне, дамо ім у некалькіх асобных артыкулах апісаньне расьлін, якія можна карысна гадаваць у нашых кліматычных варунках, а таксама і спосабы іх гадоўлі. Зараз-жа агранічымся пералічэньнем толькі галоўных з гэтых расьлін, падаючы адначасна дадзеныя аб запатрабаваньні на іх, і орыентацыйныя цэны.

1) **Румянак.** — Matricaria Chamomilla, папольску Rumianek zwyczajny; укр. Румянец; рас. Ромашка. Надаецца да гадоўлі ў вялікіх колькасьцях, галоўным чынам у невялічкіх гаспадарках. Запатрабаваньне вялікае і з прычыны недахопу тавару краёвай прадукцыі шмат увозяць яго з заграніцы, галоўным чынам з Вэнгрыі.

Пры адпаведным пашырэньні краёвай прадукцыі магчымым быў-бы экспорт (вываз заграніцу), тым больш, што наш румянак адзначаецца высокай якасьцю.

Сярэдняя цана (ў гурце) 2—3 зл. за кгр., а ў мінулым годзе дайшла нават да 4 зл., цана насеньня—40 зл за кгр.

2) **Валерыян.**—Valeriana officinalis; папольску Kozłek lekarski; укр. Валеріяна - Одолян; рас. Валерьян. Запатрабаваньне на карэньня валерыяну вялікае, а краёвая прадукцыя пакрывае яго толькі частково. Цана карэньняў лепшага гатунку каля 2 зл. за кгр. Карэньне з дзікага стану, а таксама і сьвятлейшага колеру танейшыя, а апошнія нават ня лёгка знаходзяць купца.

Расаду валерыяну можна дастаць па зл. 4—4.50 за 1.000 шт., насеньне—100—120 зл. за кгр.

3) **Аныж.** — Pimpinella Anisum; папольску Anyż; укр. Ганіж-Бедрінец; рас. Анis. Надаецца да гадоўлі ў паўдзённых паветах Беларусі, на Валыні і ў Галіччыне. Насеньне Аныжу ўжываецца да лекарскіх і прамысловых мэтаў і мае вялікае запатрабаваньне, цана зл. 1-50—2 за кгр.

4) **Пятровая мята.**—Mentha piperita; папольску Mięta pieprzowa; укр. Мята перцева; рас. Мята. Патрабуецца ў вялікіх колькасьцях дзеля перапрабкі на мятныя каплі. Гадоўля бывае карысна або недалёка ад фабрык перапрабкі, або ў вялікшых колькасьцях, каб таней абышлася перасылка; цана на сушанае лісьцё каля 3 зл. за кгр., цана расады—10 зл. за **1.000** штук.

5) **Чорная мальва.** Перапечкі. Althaea rosea vae nigra; папольску Malwa czarna; укр. Чорна мальва. Запатрабаваньне на кветкі мальвы сярэдняе, але краёвыя плянтацыі не пакрываюць і гэтага. У мінулым годзе адчуваўся на ўнутраным рынку недахоп тавару, цана каля 2 зл. за кгр.

6) **Загартушка.** Расічка; Draosera ratundifolia; папольску Rosiczka okrągłolistna; укр. Расічка; рас. Росянка круглолістая. У дзікім стане расьце на тарфянішчах, і мае вялікае запатрабаваньне *). Расьлінка вельмі дробная і можа быць хутка вынішчана, дзеля чаго Камітэт Абароны Прыроды бярэ яе пад сваю апеку. Каб задавольніць запатрабаваньне рынку, варта было-б зрабіць спробу гадоўлі яе, тым больш, што гадаваць можна на такіх няўжытках як тарфянішча, якіх у нас шмат. У Нямеччыне гэтакая спроба ўжо рабілася і дала досьць добрыя вынікі. Цана сухога зельля зл. 2—2.50 за кгр.

*) Адна фірма падала нам запатрэбаваньне да 10.000 кгр.

*Кармі мяне да Івана—зраблю з цябе пана.*

# Аб гадоўлі румянку.

Румянак ці рамонак (Matricaria Chamomilla) зьяўляецца адным з найстарэйшых лекаў расьліннага паходжаньня і ўспамінаецца аб ім ужо ў Діоскорыдэса і Плінія.

Кветкі румянку, знаныя ў аптэчным гандлі пад назовам Flores Chamomillca, маюць вялікае застасаваньне ня толькі ў мэдыцыне, але і ў народным лячэньні.

Збор кветак румянку з дзікага стану ня можа задаволіць запатрабаваньня, дзеля чаго пашыраецца гадоўля румянку, тым балей, што гадоўля гэтая зьяўляецца досьць карыснай.

Румянак аднагадовая расьліна краёвага паходжаньня, якая размнажаецца выключна з насен., і вельмі часта спатыкаецца ў дзікім стане на палёх, межах, сярод збожжа і каля хат. На добрай глебе румянак дарастае да 40 — 45 цм., добра кусьціцца і творыць шырокія кусты.

Цьвіце румянак ад паловы мая да паловы верасьня. Кветкі-галоўкі складаюцца з пялёстачкаў: скрайніх-белых, аднаполых (жаночых), язычкаватых у ліку ад 12 да 18, і сярэдзіных—жоўтых, трубкаватых двуполых, у вялікім ліку, якія даюць насеньне падоўжнае, шэрага колеру. Місачка кветкі, на якой сядзяць пялёсткі, мае форму яйкаватую, а ў сярэдзіне пустая, што зьяўляецца характэрнай адзнакай румянку і дае магчымасьць адрозьніваць яго ад іншых гатункаў румянку.

Румянак з вялікім посьпехам можна гадаваць на розных няўжытках каля хат, пад платамі, на панадворках і г. д. У селянскіх гаспадарках, дзе ёсьць дзеці, інваліды і асобы ня здольныя да цяжкой працы, вельмі карыснай будзе гадоўля румянку ў вялікшых колякасьцях, бо ўсе гэтыя асобы могуць быць выкарыстаны пры гэтай працы.

Румянак можна гадаваць на кожнай зямлі, абы толькі ня была яна вельмі мокрай і кіслай. Што да пагнояў, дык румянак ня мае асобых вымаганьняў, але, як кожная лекарская расьліна ня любіць сьвежых пагнояў; леташнія і пазалеташнія пагноі вельмі добра ўплываюць на ягоўраджайнасьць. Вымагае румянак толькі, каб палажэньне плянтацыі было цёплае і сонешняе.

Найлепей надаецца пад румянак поле ў першым годзе пасьля карняплодаў.

Зямля вызначаная пад румянак спэцыцльнай абробкі не патрабуе. Не патрабуецца таксама і глыбокае арбы, бо карані румянку ня глыбокія.

Зямля, узараная з восені, павінна быць толькі добра выбаранаваная і нават некалькі разоў, у адступах 2—3 тыднёвых, дзеля ачышчэньня ад пырніку і рознага пустазельля. На гэтае ачышчэньне належыць зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Сеяць румянак можна або з восені, зараз пасьля збору насеньня, або раньняй вясной, як толькі адтаіць зямля. Пры вясеньняй сяўбе поле прыгатаванае з восені, трэба толькі адзін раз забаранаваць.

Насеньне перад сяўбой трэба добра зьмяшаць з сухім пяском (на 1 мерку насеньня бярэцца 5 гэтакіх мерак пяску) і сеяць радкамі шырыні каля мэтру, пакідаючы паміж імі вольнае мейсца ў 30—40 цм. для праходу падчас збору кветак, Сеяць румянак найляпей у сухую і ціхую пагоду.

Засеянае румянкам поле трэба толькі завальцаваць, а на невялічкіх палетках—прыціснуць зямлю дошчачкай. Пры адпаведнай вільгаці зямлі і цяпле насеньне румянку пачынае прарастаць ужо на 4 - 6 дзень.

Поле засеянае румянкам трэба адзін-два разы выпалаць, а праходы паміж радкамі — абматыкаваць. Ніякіх іншых работ да часу збору кветак каля румянку не патрабуецца.

Цьвісьці румянак пачынае праз $1^1/_2$ — 2 месяцы лічучы ад прарастаньня насеньня.

Як толькі зьявяцца першыя кветкі трэба распачаць збор, які павінен ад-

бывацца што некалькі дзён, у меру нарастаньня новых кветак.

Зьбіраць кветкі найляпей ручным спосабам, бо тады атрымліваецца чысьцейшы і лепшы тавар.

Праўда, гэтакі збор кветак патрабуе шмат рабочае сілы, але баяцца гэтага ня трэба, бо выдаткі на яе заўсёды аплоцяцца, нават там, дзе гэтае рабочае сілы няма ўва ўласнай сям'і, а прыходзіцца яе наймаць.

Ня радзіцца карыстацца пры зборы рознымі прыладамі, як папрыклад граблі з рэдкімі зубамі, або якія небудзь спэцыяльныя граблі, бо пры гэтакім зборы тавар занячышчаецца лісьцём і прылісьцікамі, і значна траціць у цане.

Зьбіраць трэба кветкі не перацьвіўшыя, і пры гэтым у сухі сонешны дзень, бо кветкі перацьвіўшыя прысушцы раскрышацца, а сабраныя падчас дажджу счарнеюць, што ад'емна адбіваецца на цане тавару.

Сушыць румянак трэба на сонцы, або ў сушарнях ці печках, пры тэмпэратуры 30—40⁰ С., кладучы яго для сушкі тонкімі пластамі.

Сухі тавар перахоўваецца ў зачыненых дзеравянных скрынках ці бочках, якія трэба выслаць пепераю.

Ураджай з аднаго гэктару выносіць ад 500 — 800 кгр. сухіх кветак, што пры сярэдняй цане 2.50 зл. за кгр. і пры сярэднім ураджаю 550 кгр. дасьць даходу каля 1375 зл. з гэктару.

Аблічым зараз кошты прадукцыі.

На адзін гэктар патрабуецца насеньня 3 кгр., што пры цане 40 зл. за кгр. выносіць — 120 зл., 384 рабочых дні па 1.20 — 460 зл. 80 гр., 12 дзён працы з канём па 5 зл. — 60 зл. Разам—640 зл. 80 гр.

Чысты даход, ужо пасьля аплаты рабочае сілы, выносіць 734 зл. 20 гр., будзе вагацца ў залежнасьці як ад уражайнасьці зямлі, так і ад цэн на рабочую сілу.

Трэба заўважыць, што румянак не дае ніякага пажытку пчале і не зьяўляецца кармовай расьлінай, а мае значэньне выключна лекарскае.

Дадзеныя аб ураджайнасьці і колькасьці рабочае сілы ўзяты з арыентацыйнай табліцы інж. М. Гаўрыленкі. Апрача таго аўтар артыкулу карыстаўся працамі д-ра В. Стражэвіча і інж. М. Хмелінскай.

---

## Календар збору зёлак.

Сакавік — Красавік — пара збору карэньняў, кары і пыпушак.

**КАРЭНЬНЕ.** Приступаючы да збору карэньняў, трэба памятаць, што маюць яны ў сабе найбольш лекарскіх субстанцыяў датуль, пакуль расьліна не пачала яшчэ расьці, дзеля чаго збор іх адбываецца да тае пары пакуль не пачне выходзіць лісьцё. Карэньне трэба добра ачысьціць ад зямлі, бо інакш ніхто іх ня купіць. Карэньне пахнючае перахоўваюцца ў зачыненых пасудзінах.

**КАРА.** Кара зьбіраецца ў тую пару, калі дрэва пушчае сокі. Кара павінна быць хутка высушана, каб не сплясьнела, або ня згніла, і каб яе не змачыла дажджом. Зьбіраць кару трэба так, каб ня нішчыць дрэў.

**ПЫПУШКІ**, зьбіраюцца пакуль яны яшчэ не распусьціліся і бываюць ліпкія і пахнючыя. Пыпушкі ўжо распусьціўшыяся ня маюць ніякай лекарскай вартасьці. Зьбіраць пыпушкі трэба з бочных ніжніх галін, каб ня нішчылася дрэва.

### Карэньне.

1) **АЕР.**—Acuorus Calamus. Запатрабаваньне вялікае. Ідзе на экспарт (выва за граніцу), цана ў гурце 40 — 50 гр. за кгр.

2) **ДЗЕРАВЯНКА.**- Potentilla Tormentilla. Запатрэбаваньне сярэдняе, цана каля 60 гр.

3) **ДЗЯГЕЛЬ.**—Angelica officinalis Запатрабаваньне сярэдняе. Краёвыя плянтацыі пакрываюць яго толькі часьцёва, цана зл. 3—3.50.

Лясны дзягель. A sylwestris. значна танейшы.

4) **ЛАПУХ.**—Lappa officinalis. L. Major, цана зл. 1—1.50.

5) **ПЫРНІК.**—Triticum repens. Запатрабаваньне сярэдняе, цана 20 гр.

6) **ПАНЧОШНІК.** — Мыльнік. Saponaria officinalis,—цана 50—60 гр.

7) **МАЛАЧАЙ.**—Taraxacum officinalis, цана зл. 1.50—1.80 кгр.

8) **ПАДБЕЛ.**—Tussilago farfara.

9) **БУЗІНА.**—Sambucus niger.

10) **КРАПІВА.**—Urtica dioina.

11) **РАЧЫКІ.**—Polygonum Bistorta.

### Кара.

1) **КРУШЫНА.**—Rhamnus Frangula Запатрабаваньне вялікае. Паважны экспартны тавар, але цана надта нізкая, каля 15 гр. кгр.

2) **ДУБ.** — Quercus peduculata. Запатрабаваньне вялікае, нават экспартны тавар, цана 15 гр. кіляграм.

### Пыпушкі.

1) **БЯРОЗА,** — Betula alba. Цана ня сталая, у мінулым годзе ад 30 гр. да 1.20 за кгр. Асобна зьбіраюцца маладыя лісточкі (пакуль яшчэ клейкія), цана 10—15 гр. за кгр.

2) **САСНА.**—Pinus silvestris. Запатрабаваньне вялікае. Ідзе на экспарт, цана 50—60 гр. кгр.

### Ягады.

**ЯЛАВЕЦ.** — Juniperus communis. Шмат ідзе на экспарт, цана 15—20 гр. за кіляграм.

(Цэны пададзена арыентацыйныя, без забавязаньня).

---

## З чужога жыцьця.

Амэрыканская пчалярская часапісь, рэдагаваная Ц. П. Дадантам, „American Bee Journal" сьвяткуе сёлета 75-тыя ўгодкі свайго існаваньня. № 1 за студзень 1935 году амаль ня ўвесь запоўнены юбілейным матар'ялам. Бачым там „Успаміны" Ц. П. Даданта: рад артыкулаў друкаваных у папярэднія гады, нават у першыя гады існаваньня часапісі, як напр. „Культура Пчол" Самуэля Вагнэра, першага рэдактара „Americ. Bee Journal" друкаваны ў 1861 годзе. Далей артыкул аб курадымах: „Ад скрутка ганучкі да навачаснага курадыма".

Артыкул „Пушніцы" (цэнтрафугі да мёду) праз Лянгстрота і Сына, пісаны ў 1868 г. разглядае розныя тыпы пушніцаў. І шмат, шмат іншых, вельмі цікавых, багата ілюстраваных, якія сьведчаць аб высокай культуры пчалярства Амэрыкі.

### Атрутны мёд.

Здараецца часам чытаць у газэтах аб выпадках атручаньня мёдам, сабраным пчолкамі з нейкіх атрутных расьлін. Было ў гэтым нешта незразумелае, бо некатарым людзям гэты мёд шкодзіў, а іншыя, якія елі яго пазьней, не адчувалі ніякіх благіх вынікаў.

Аўтар артыкулу прыпамінае сабе такі факт: пэўная сям'я паехала ў стан Міссуры і ела там нейкія незнаёмыя фрукты, ад якіх хварэла, варочаючыся ўзялі тых фруктаў з сабой „пачаставаць" сваіх прыяцеляў, тыя елі і — былі захопленыя смакам. Аказалася, што фрукты праз дарогу дасьпелі і страцілі свае шкодныя ўласьцівасьці. Гэта, праўдападобна адносіцца і да мёду. Толькі сьвежы нясьпелы мёд можа быць атрутным, а пасьля нейкага часу, калі мёд добра дасьпее, яго атрутныя ўласьцівасьці зьнікаюць. Пацьвярджаюць гэты пагляд весткі з Новай Зэляндыі, дзе нясьпелы мёд з дзьвюх расьлінаў дзеіць як атрута, але ў сьпелым стане можа быць ужываны зусім бясьпечна.

Гэтак сама гаркаватасьць мёду траціцца, калі ён добра дасьпее. З гэтага вынікае, што ў кожным выпадку, а асабліва, калі ёсьць сумліўнасьць, што да паходжаньня мёду, трэба даць яму цалком высьпець. („American Bee Journal").

—o—

**Справа гадоўлі лекарскіх зёлак у Нямеччыне.**

Немцы Усходняй Прусіі, дбаючы аб пашырэньне гадоўлі лекарскіх зёлак, а значыцца і аб збыт іх, што залежыць ад якасьці выпрадукаванага тавару, пастанавілі ў сёлетнім годзе ўвясьці спэцыяльныя „знакі дабраты“.

Толькі зёлкі адзначаныя гэтым знакам могуць быць дапушчаны на рынкі; купцы павінны будуць забавязацца купляць толькі „значаны“ тавар. Дзеля гэтага права атрымаць гэтакі знак ляжыць у інтарэсе кожнага гадоўцы і купца, тым больш, што ўвёўшы „знак дабраты“ будзе магчыма назначыць адпаведныя цэны на нямецкія зёлкі.

(паводле „Königsb. Alg. Zeit.“)

## З ВЫДАВЕЦКАГА РУХУ.

Зварочываем увагу нашых паважаных пчалароў на 2 карысныя ўкраінскія кніжкі, якія сёлета выйшлі з друку.

1) „Олійни рослини“. (Алейныя расьліны) інж. М. Бароўскага..

Кніжачка гэтая на 48 старонках зьмяшчае падрабязнае апісаньне 7-мі алейных расьлін і іх гадоўлю. З іх 6-ць: сонечнік, сьвірэпа, гарчыца, мак, „кольза“ і „рыжый“ (апошніх — беларускія назовы нязнаныя) могуць быць з карысьцяй гадаваныя і ў нас; 7-я, алейны гарбуз, у нас ня ўдасцца, бо вымагае цяплейшага клімату. Гадоўля алейных расьлін сягоньня лепш аплачываецца, чым гадоўля збожжа. Розныя алеі, дзеля ежы, хварбаў, мазяў і г. д. масава прывозяцца з заграніцы, гадуючы алейныя расьліны ў краі можна пакрыць запатрабаваньне і ня вывозіць грошы. Дзеля таго, што ўсе апісаныя ў кніжцы інж. М. Бароўскага расьліны належаць да найлепшых медадаяў, пчаляры павінны зьвярнуць на іх вялікую ўвагу. Кніжка каштуе ўсяго 50 гр. з перасылкай 60 грошы.

2) „Лікарські рослини“. (Кмен, аныс, мальва, валер'ян) і сушарня для зёлак,—інж М. Гаўрыленкі. У гэтай кніжцы падрабязна апісана, як гадаваць, зьбіраць і сушыць вышэйпералічаныя расьліны, а таксама, якую можна мець з іх карысьць. Для пчалыроў гэтая кніжка таксама цікавая, бо ўсе тыя расьліны зьяўляюцца медадаямі.

Цана 50 гр. з перасылкай 65 гр.

—o—

## *АД РЭДАКЦЫІ і АДМІНІСТРАЦЫІ.*

*Вялікія, у стасунку да прыходу, кошты выдаваньня „Беларускай Борці“ пасьля пераходу на друкарскі спосаб змушаюць Рэдакцыю зьвярнуцца да Беларускага Грамадзянства з гарачай просьбай падтрымаць нашыя высілкі, складаючы ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларускай Борці“.*

*УЖО ЗЛАЖЫЛІ: гр. І. Біндзюк—5 зл.; Я. Мілейка — 5 зл.; М. П.—2 зл. Ахвярадаўцам складаем вялікае дзякуй.*

# Паштовая скрынка.

**Г-ну Аляксандру Васкабойніку— (У.С.С.Р.).** Шчыра дзякуем за Вашыя прывітаньні і пажаданьні, усімі сіламі будзем старацца, каб праца наша прыносіла як найбольш карысьці. „Бел. Борць“ Вам высылаем і будзем высылаць стала. Аб супрацоўніцтва вельмі просім. Рады будзем мець беспасярэднія весткі аб працы пчаляроў Вялікай Украіны. Просім пісаць паукраінску і памагчымасьці прысылаць матэр'ялы ў пачатку кожнага месяца. За прысланьне пчалярскай літэратуры будзем вельмі ўдзячныя.

**Г-ну Сьцяпану Вагнавану.** (Румынія). „Бел. Борць“ пачалі Вам высылаць з № 1—2 1935 г. Варункі падпіскі знойдзеце на першай старонцы гэтага нумару. Добрых спэцыяльных кніжак у мове белэрускай нажаль ня маем. Што тычыцца расейскіх, даведаемся і паведамім Вас пісулькай. У Вільні выходзіць беларускі каапэратыўна-гаспадарчы месячнік „Самапомач“ адрас: Wilno, ul. Połocka № 4—10. Пішыце нам аб сваей пчалярскай гаспадарцы і аб спосабах пчаляраваньня ў Румыніі.

**Г-ну Пётру Зайку.** „Бел. Борць“ высылаем. Цэньнік пчалярскіх прыладаў разашлем усім падпішчыкам з наступным нумарам.

**Г-ну М. Новіку.** Грошы атрыманы, „Бел. Борць“ высылаем. Чакаем далейшай падпіскі.

**Г-ну В. Кукуцю.** Пробны нумар Вам высланы. Чакаем падпіскі.

**Г-ну Сьцяпану Пратасэвічу.** Пробны нумар „Бел. Борці“ высланы Вам 22.III.

**Г-ну Сьцяпану Алефіровічу.** Пробны нумар „Бел. Борці“ Вам высланы. Варункі падпіскі знойдзеце на першай старонцы часопісі.

**Гр. А. Куклову і Я. Ваську.** Грошы ад Вас атрыманы і гр. Куклову „Борць“ высылалася акуратна і ў 1934 і 1935 годзе. Дамагайцеся на сваей пошце, каб Вам газэты акуратна даручалі. Цяпер, усе нехапаючыя нумары высланы паўторна. Інфанмацыі па збору лекарскіх зёлак будуць падавацца ў кожным нумары „Беларускае Борці“.

**Гр. А. Каліноўспаму.** Пробны нумар Вам высылаем.

# Цэньнік расьлін медадайных.

## Насеньне.

Асацец грэцкі (Echium creticum) порцыя 50 гр.
Агурочнік (Borrago officinalis) „ 30 гр.
Мэліса . . . . . . . „ 30 гр.
Фацэлія (Facelia tanacetifolia) „ 20 гр.
Дзед (Echinops spherocephalus) „ 30 гр.
Ізоп (Hysopus officinalis . 20 гр.
Гарчыца белая (Sinapuis alba) 1 кіляграм 90 гр.

## Дрэва, кусты і флянсы.

Плата за штуку.

Белая акацыя — ад 50 да 140 цм. 30—60 гр.
Софора японская (цьвіце ў жніўні і верасьні 30 цм. . . . . 50 гр.
Аморфія—куст цьвіце пасьля акацыі . . . . . . . . . 50 гр.
Ізоп—кусьцік лекарскі, мядуе ў працягу 2-3 месяцаў . . . . 50 гр.
Бружмель ружовы—цьвіце адначасна з бэзам . . . . . . . . 50 гр.
Дзед — расьліна 2-х гадовая, лёгка рассейваць флянсамі . . . . 20 гр.
Мэліса — 10 флянсаў . . . 30 гр.
Мак кітайскі—цьвіце рана вясной — кусьцік . . . . . . . . 60 гр.

Выпісываць можна праз Рэдакцыю „Беларускай Борці“.

Выдавец-Рэдактар Л. ВОЙЦІКАВА.
Друкар. Ш. Рыдзюньскага, Вільня, вул. Вялікая 39.